№ 19. Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на 1/2 году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 19 (111). Год II. Вільня, 6 марца 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## 5 марца.

**Заходні тэатр:**

Пры ясвай пагодзі, у многіх мейсцох фронту баевая дзеяцельнасць павысілася.

На поўнач ад Соммы англійцы, пасьля сільнага агня, атакавалі на палудзень ад лесу Сэн Пь'ер Васт. Пасьля заўзятай бітвы, кавалак акопу пры дарозі Бушавэнь-Мэлен, астаўся у іхніх руках.

На усходнім беразі Маас, нашы войскі узялі францускіе пазыціі пры лесі Кор'ер, на шырыні 1500 мэтроў і адбілі начные контратакі. У усходня-палудневым кутку лесу Фост, у французоў, такжэ, атабраны важны пункт. Апрыч крывавых страт, ворагі утрацілі: 6 афіцэроў, 572 чэлавекі палонымі, 16 кулямётоў і 25 скорастрэльных стрэльб.

---

У многіх бітвах на паветры, ворагі утрацілі учора 18 самалётоў. Наша страта—4 самалёты.

**На усходнім і македонскім фронтах** баевая дзеяцельнасць была незначнай.

---

## Нямеччына і Амэрыка.

БЭРН. Парыжскіе газэты публікуюць ноту, каторая пярэчыць, што гэто неправўда бытцым мае быць у скорым часе вайна між Амэрыкай і Нямеччынай. Справа вайны можэ зацягнуцца ешчэ дні і тыдні, бо яна залежыць не ад Вільсона, але ад грамадзянскай думкі Амэрыкі.

НЬЮ-ІОРК. Ляндсінг заявіў, што неправўдападобна, каб Японія згодзілася на пляны Нямеччыны. Ен гэткай самай думкі і ў стасунку да Мэксыка. Ляндсінг апублікуе сабраньне дакумэнтоў аб тайнай працы нямецкіх палітычных агентоў у Амэрыцы і ў Азіі. Мэксыканскі прэзыдэнт Каранца атправіў у сярэдзіне студня многа важных тэлеграм, праз станцію бяздротнаго тэлеграфу у Сант Сальвадоро. Гэта станція знаходзіцца пад нямецкім упраўленьнем.

Рузвэльту запрапанавалі маршалкоўство у цяпер арганізуючымся ваенным камітэці. Членамі камітэту будуць: Вільсон, міністры, прэдстаўнікі чугунак і работніцкіх сувязей.

ВАШЫНГТОН Вільсон будзе уаружаць торговые караблі і прыймаць іншые способы дзеля абароны амэрыканскаго морэплаваньня. Ен лічыць, што настраеньне сэнату дае яму на гэто право.

Сэнат закрыў сваё заседаньне не галасаваўшы закону аб уаружэным нэўтралітэце, але 83 сэнатары, з агульнаго ліку 96, падпісалі заяву у карысць закону і толькі 12 сэнатароў адмовіліся падпісацца.

---

## С Польшчы.

ВАРШАВА. 4.III. «Dziennik Narodowy» у Пётркове, падае размову с палкоўнікам Сікорскім аб ваенным пытаньню. Сікорскі між іншым сказаў: „Мы маем даволі людзкога матэр'ялу, каб злажыць сільную армію годную польскаго народу. У нашым распараджэньні новабранцы 1915, 1916 і 1917 гадоў, а такжэ вялікі лік звольненых ад ваеннай службы між 22 і 26 годам, ды ешчэ старшые запасные, пачынаючы ад 36 лет, каторых расейцы ня здужалі ўзяць у войско, а такжэ расейцы ня здужалі узяць набор новабранцоў 1914 году. Пачынаць трэба з дабравольцоў, якіе на заклік дзержаўнай рады з'явяцца у ліку некалькіх дзесяткоў тысяч і зложаць першую польскую армію.

ЛЮБЛІН. Афіцэры і салдаты 6 польскаго легіоннаго палка, злажылі дзержаўнай радзе 3.000 карон для помачы ахвярам вайны у межах польскай дзержавы.

Газэты падаюць, што памершый у Любліне дабрачынца Фэттэр, пакінуў 250.000 рублёў на школьные справы, на рэформацкую кірху у Варшаві і на Аўгсбургскую кірху у Любліні.

ВАРШАВА. 10 марца адбудзецца тут з'езд усіх польскіх біскупоў дзеля выбору дзекана і прафэсароў для богаслоўскаго факультэту у унівэрсытэт Варшаўскі.

## З Расеі.

ПЕЦЯРБУРГ. Заручыны румынскаго наступніка трону Кароля с царэўнай Тацянай, адложэны да паправўкі ваеннаго палажэньня.

---

## Конрад ф. Гэцэндорф.

„Імператарскім рэскрыптам фэльдмаршалак Конрад фон Гэтцэндорф дзеля заняцьця другога важнаго становішча звальняецца ад становішча начальніка генеральнаго штабу".

Гэткую офіцыальную вестку прынёс нам 2 марца тэлеграф з Вены. Звальненьне ад чыннасьцей начальніка генеральнаго штабу ў гэтым прыпадку ня можэ быць роўназначным з адстаўкай фэльдмаршалка ф. Гэтзэндорфа ўжо затым, што ў офіцыальнай тэлеграмі говорыцца: „дзеля заняцьця другога важнаго становішча". Але і бяз гэтых слоў нікому не магла бы прыйсьці ў галаву думка, бытцым кар'ера фэльдмаршалка ф. Гэтцэндорфа закончэна: дзеля гэтаго, што ён лішне популярны ня толькі ў Аўстрыі, але і за яе межамі. У часі ўсяе сусьветнай вайны, калі с прычын, аб якіх цяпер гаварыць рано, палажэньне аўстрыякоў не раз бывало крытычным, ён ні на момэнт не ўтраціў веры свайго грамадзянства і гэту веру апраўдаў.

Прычыны, дзеля якіх аўстрыяцкая глаўная каманда звольніла Гэтцэндорфа ад чыннасьцей начальніка генеральнаго штабу, лёгка згадаць. Нямецкіе і аўстрыяцкіе войскі гэтак цяпер перамешаны, што нельга гаварыць аб фронці нямецкім і аўстрыяцкім. Пры ўсей незалежнасьці Аўстро-Вэнгрыі, ясна, што ўсімі часьцямі фронтоў на ўсходзі і заходзі кіруе адна воля, якая выходзіць з нямецкай глаўнай кватэры, — ведома, пасьля папярэдніх перэгавораў і ўгоды з аўстрыяцкай глаўнай кватэрай. У нямецкай глаўнай кватэры цяпер знаходзіцца Гіндэнбург і Людэндорф. Пры гэткіх варунках аставацца надалей у аўстрыяцкай глаўнай кватэры для Гэтцэндорфа было калі ня шкодным, дык прынамсі непатрэбным: гэткі выдатны генерал на мейсцы начальніка аўстрыяцкаго генеральнаго штабу ня мог у поўнай меры выкарыстаць свой талент. І вось ён «назначаецца на другое важнае становішчэ».

Якое гэто важнае становішчэ, якое займець Гэтзэндорф, мы, бадай, даведаемся ў найблізжэйшые дні. Што становішчэ гэтае будзе папраўдзі важнае і выдатнае, аб гэтым сьведчыць як імя фэльдмаршалка, так і яго чын.

Сам сабой прыходзіць на думку ўспамін аб тым, што ў верэсьні таго году здарылося ў нямецкай глаўнай кватэры, калі начальнік нямецкаго генеральнаго штабу, Фалькэнгайн, пакінуў сваё мейсцо дзеля новаго важнаго назначэньня. Як вядома, на яго мейсцо быў назначэн Гіндэнбург. Тады для цэнтральных дзержаў палажэньне на ваенных фронтах было дужа сур'ёзнае, і Імператар зрабіў гэты крок мо' ня гэтулькі дзеля паднацьця духа ў арміі, скольні дзеля супакоеньня грамадзянства. А Фалькэнгайну аддалі глаўную каманду над сабранымі на румынскай граніцы арміямі, каторые пад яго кіроўніцтвам разгамілі Румынію.

Мы думаем, апіраючыся на цяперашнім ваенным палажэньні, што наш пагляд ня будзе проста аналёгіей, калі скажэм, што у спадзеваных ваенных здарэньнях, якіе мо' ўжо і пачаліся ў той момэнт, як мы пішэм гэтые словы, фэльдмаршалак Гэцэндорф, улюблены народамі Аўстро-Вэнгрыі і бязспорна самы выдатны муж у дзержаве, адыграе становўчую ролю.

---

## На фальшывай дарозі.

Ешчэ за некалькі гадоў перад вайной польскі пісьменнік Язэп Вэйсэнгоф, напісаў аповесць пад назваўньнем «Unija». У гэтай кніжцы на канве рамансу дужа характэрна нарысаваны два кірункі, панаваўшые між палякамі дый «тутэйшымі» адшчапенцамі пад той час, калі літоўскі рух ужо шырока разліўся ў Літве і ўсё болей і болей выразна пачаў прабівацца рух беларускі. Кірункі гэтые былі такіе. Адна часць працавала дзеля таго, каб коштам беларусоў і літвіноў зрабіць польска-маскоўскую згоду, памагаючы абмасковіць наш Край і жадаючы за гэта пашырэньня правоў палякоў; гэта часць цягнула да уніі — еднасьці з Масквой. Другая часць кіравалася да таго, каб чым-мацней звязаць Беларусь і Літву с Польшчай, узмацовываючы гэтак на нашай зямлі доўгалетняе польскае панаваньне; яны выстаўлялі, як свой ідэал, аднаўленьне уніі с Польшчай.

Цяпер усё змянілося. Першые большай часьцю выехалі туды, куды іх здаўна цягнуло сэрцэ ці... інтэрэс: у Пецярбург Маскву,—а тые с-паміж іх, каторые асталіся, сідзяць моўчкі, бо сваіх паглядоў не змянілі. Затое другая часць—паводлуг загаду с Польшчы—адрэклася свайго ідэалу уніі і жадае проста «далучэньня» нашаго Краю да Польскаго Каралеўства, бытцым мы—гэто нейкая рэч, каторую можна аддаць таму або іншаму валадару, не пытаючыся, чаго хочэ наш народ.

Трэба адзначыць, што заяву Немоёвскаго, кароннаго маршалка Польшчы, аб «гістарычнай міссіі» палякі стараюцца праводзіць у

жыцьцё ўсімі сіламі і ўселякімі спосабамі. Як мы даведаліся, у розных мейсцох нашага Краю на почтах былі сконфіскаваны пасылкі, ў якіх з Варшавы перэсылаліся адозвы тымчасовай дзержаўнай Польшчы, прызываючые да прылучэньня да Польскаго Каралеўства Беларуска-Літоўскіе землі. Польскіе эмісары стараюцца набіраць у нас паміж моладзьдзю рэкрутоў да польскай арміі, а якую мэту мае тая армія — аб гэтым чытаем у № 10 выдаванай у Варшаве польскай часопісі «Rząd i Wojsko» з 10 лютаго 1917 г.:

„...сягоньня робіцца ўжо зусім ясна, што справа нашай арміі, гэтай нашай маленечкай раўнуючы да мільённых волатоў армій—гэто важкі чыннік дзеля справы нашых граніц. Яна ў недалёкім ўжо часі развяжэ на вечные часы пытаньне аб Літве. Яна разсудзіць, ці Львоў астанецца польскім“...

Само сабой, гэтые словы вызываюць слушную усьмешку: толькі вельмі наіўные людзі могуць паверыць, што гэткае маленство, як цяперашняя Польшча, запраўды здалела-бы заваеваць сваімі аружнымі сіламі наш Край, ды ешчэ аўстрыяцкі Львоў! І мы можэм толькі шчыра пажалець польскі народ, што яго «гасударственые мужы» выстаўляюць сябе на агульнае пасьмешышчэ. Але іначэй быць ня можэ: ступіўшы раз на фальшывую дарогу, выстаўляючы за свой ідэал паняволеньне другіх народоў побоч з жаданьнем волі для сябе, польскіе палітыкі ідуць усё далей і далей—да лёгічнаго канца, не бачучы, што на канцы іх жджэ поўнае ідэйнае банкрутство.

*І. Мелешка.*

Цяпер, як ужо пісалося ў „Гомане“, Папеж прыслаў ад сябе літвіном 20.000 м. і даў пазваленьне ў-ва ўсіх каталіцкіх касьцёлах сьвету збіраць грошы дзеля Літвы.

Апошняя вестка паказвае, што Сьвяты Ацец адносіцца да літоўскаго народу с такой самай прыхільнасьцю, як і да іншых каталіцкіх народаў. Затое-ж тутэйшые «прыяцелі» літвіноў аказаліся гэтым крокам Папежа нездаволенымі і надрукавалі аб ім толькі пад прынукай... Ды ўжо гэто адно павінно гаварыць аб тым, якую вялікую моральную вагу мае ўся справа.

Справа гэта гаворыць нам ешчэ і аб другім. З яе мы бачым, якую помач можэ даць каталіцкае духавенство народу, каторы мае сваіх прэдстаўнікоў у Ватыкане. У Рыме ёсць ксяндзы-літвіны пры сталіцы Папежа, і вось яны выясьняюць тамака патрэбы літоўскаго народу, яго беды, крыўды, жаданьня.

Мы шчыра цешымся за братоў-літвіноў, можэм ім шчыра пазавідываць таго, што яны ўжо маюць сваё нацыянальна-сьведомае духавенство. На вялікі жаль, у беларусоў такіх ксяндзоў німа, а калі ёсць дзе ксёндз беларус, дык яму прыходзіцца працаваць дзеля беларускай справы цішком, хаваючыся, каб мейсцовае духоўнае начальство — пагалоўна польскае — не даведалося бы аб тым і ня выслало-бы яго ў такое мейсцо, дзе ён нічога рабіць ня здолее, — напрыклад, у літоўскую ваколіцу. З гэткай „сыстэмай“ мы знаёмы ўжо даўно...

Ведама, адзін чэлавек тут нічога парадзіць ня можэ. Але ксяндзоў беларусоў ёсць больш, чым адзін, і больш чым у аднаго з іх загаварыло нацыянальнае сумленьне. Ніхай толькі пераменяцца варункі ў Віленскай дыэцэзіі, — і яны заявяць аб сабе і аткрыта выступяць за свой народ беларускі, за беларускую справу.

Быў час, калі такое самае палажэньне, як мы цяпер, перэжывалі літвіны. Але у іх гэты час ужо мінуў. Ніхай жэ тое, чаго яны здалелі дайсьці, служыць нам за добрую запаведзь, што «блісьне сьвет і к нам ў ваконцэ».

А сьвет той ужо блізка.

Х. Х.

## Добрая запаведзь.

Пад той час, калі ў экономічным жыцьці нашаго Краю пануе поўны застой, бо народ ня можэ, як у нормальных варунках, тварыць сваё багацьце, — дзеля помачы нялічэным ахвярам вайны патрэбна помач з-за меж гэтаго Краю. Значную падмогу дагэтуль атрымлівалі літвіны з Амэрыкі, дзе ў іх вельмі добра організованы чысьленые массы эмігрантоў, дайшоўшых у чужыне дабрабыту.

## У Вільні і ваколіцах.

× **У Беларускім Клюбе.** У гэту нядзелю адбыліся „ўлазіны“ Беларускаго Клюбу ў новую гасподу пры Віленскай вул. 28. Справаздачу аб забаве дамо ў чародным нумэры.

Праз пост у клюбе будзе выступаць драматычная дружына пад кірункам п. Ф. Олехновіча кожную нядзелю.

× **У таннай работніцкай страўні** (Завальная 5) кожын дзень выдаецца 2.000 абедоў. За 65 фэн. даюць на абед зупу, мяса і на выбар тры кашы.

× **Саюз вучыцелёў гэбрайскай мовы** маніцца аткрыць сваю коопэратыву і гыгіенічную страўню для сваіх членоў.

Хто хочэ запісацца, можэ звертацца па адрэсу: В. Пагулянка 11, 10 кожын дзень.

× **З нямецкай выстаўкі мастацтва.** Выстаўка мастацтва будзе аткрыта да 20 марца г. г. Лётэрыя разыграецца не 28 лютаго, а 18 марца.

× **Акружны суд.** У марцы мінуўшаго году, у Добраволі, як вядома была зверска перабіта сем'я Лісоўскіх, складаючаяся с 75-летняго Лісоўскаго, 75-летняй яго жонкі, 23-летняй залоўкі, 17-летняго сына і дваіх унукоў, двох і чатырох лет. Чатырох душагубоў было злоўлена, засуджэна і пакарано сьмерцю. Уцёк толькі адзін фурман Юры Янушэўскі, доўга аб ім небыло нічога чутно, ажно нідаўна яго злавілі у Вільні, дзе ён хаваўся. У мінуўшую сераду акужны суд судзіў Юр'я Янушэўскаго і асудзіў яго на кару сьмерцю праз павешэньне.

× **Аб апушчэных дамох.** Нямецкі гараднічы запрашае арэндатароў і кватэранцоў, апушчэных дамоў і гаспод, знахадзячыхся пад яго ведамам, безадкладна і акуратна ўплачываць належные ад іх грошы, бо іначы, згодна з загадам Глаўнакамандуючаго на ўсходзе ад 29 лютаго 1916 году і 16 студня 1917 году, проці няплоцячых будуць зроблены непашчадные крокі.

× **Вымога асцярожнасьці.** Нямецкі гараднічы радзіць ачышчаць стрэхі ад сьнегу с павіннай асьцярожнасьцю, каб не папсаваць, ці не зруйнаваць тэлефоноў, бо гэты праступак, зроблены нават па неасцярожнасьці, згодна з загадам Глаўнакамандуючаго на ўсходзе ад 6 XII 1915, срога караецца.

× **Скорая помач.** Ад 19 да 25 лютаго скорая помач дадзена у 86 прыпадках. У 59 прыпадках трэба было карыстацца карэткай скорай помачы.

× **Крадзежа.** У ночы на 2 марца, злодзеі улезлі у апрэкарскі магазын, Юр'еўскі праспэкт 47, і накралі тавароў на блізка 700 марак.

× **Курс рубля:** офіцыальны — 2 м. 00 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 27 ф., пры куплі—2 м. 31 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| за дзень з 28 на 1 | + 2,5° | — 5° |
| „ з 1 на 2 | — 2,5° | — 9,5° |
| „ з 2 на 3 | — 7° | —23° |
| „ з 3 на 4 | —11,5° | —25° |

## З усяго Краю.

ГРОДНЯ. Як вядома, адным с цікавасьцей Гродны яўляецца замак. Ен стаіць на выдатным мейсцы, высока над Нёманам. Замак гэты у сваіх сценах бачыў банкетуючаго Аўгуста Сільнаго, піўшаго Петра Вялікаго, Кароля XII тварыўшаго у ім пляны новых бітв і апошняго польскаго караля Станіслава-Аўгуста, адмовіўшагося тут ад польскай кароны. Цяпер нішто не спамінае, зверхнім і ўнутрэным выглядам замку, гэтых вялікіх гісторычных спаміноў. Да прыходу немцоў ён быў домам афіцэрскаго сабраньня.

Другі цікавы будынак Гродны, гэто так званы палац Тызэнгаўза, сучасьніка апошняго польскаго караля. У ім жыў расейскі губэрнатар у часе вайны і ў часе аблогі быў спален.

ГРОДНЯ. У гаспадыні Ульяны з В. Філевіч, у восень 1916 г.; як падае „Grodn Zeitung“, украў нехта авечку. Калі небавам у гэтай самай вёсцы адбывалося вясельле, жандары устанавілі, што смачная бараняя пячэня лежала

## Рэформацкі рух на Беларусі.

(Гл. «Гоман» № 18).

Не глядзя на гэткае хуткае шырэньнеся рэформацкі рух не ўмацаваўся карэнямі на Беларусі. Прычынай гэтаму было тое, што шырылася рэформацыя толькі паміж шляхты і мешчанства. На селян тады мала паны звярталі увагі. Другая, важнейшая тая прычына, што рух рэформацкі разбіўся на многа дробных сэкт, каторых сучаснікі налічалі да 70—80. Сэктанты вадзіліся паміж сабой і адны адным, а найболей усей справе, шкодзілі. Пад канец XVI сталецьця пачынаецца упадак рэформацкаго руху. У гэтым часе да барадзьбы з рэформацией уаружыўся каталіцызм. Каталіцтво да змаганьняся с протэстантызмам высунуло закон Езуітоў.

Найперш паявіліся Езуіты у сталіцы дзержавы у Вільні, у 1569 гаду. Яны паказалі сябе кемнымі красамоўцамі і хутка здабылі ўступ ў магнацкіе гасподы як багамольцы і спаведальнікі, а такжэ як дамовые вучыцелі, у канцы ўзялі у свае рукі школы, якіе патрапілі наладзіць лепей за іншых.

Пачаўся шпаркі наварот нашаго панства і шляхты у каталіцтво. Чатыры сыны князя Мікалая Радзівілла былі ўжо католікамі, а адзін з іх, князь Юрый стаўся нават віленскім біскупам. За Радзівіллами пайшлі Сапегі, Ходкевічы і інш. Мікалай Сіротка Радзівілл выдаў 5000 чырвоных залатых на выкупляньне кальвінскай Бібліі, выданай бацькам яго Мікалаем, у Брэст-Літоўску, і каб публічна, перад віленскім ратушам, спаліць яе з рук ката.

У XVII сталецьці кальвінізм вызнавала ўжо толькі невялічкая горсць беларускай шляхты, а лютэранство, гэтак сама, невялічкая горсць мешчанства, найболей нямецкай народнасьці.

Багацейшая беларуская шляхта у XVII сталецьці адны за другімі пераходзяць у каталіцтво ня толькі з рэформацкіх вер, але і з усходне грэцкаго абраду, да гэткіх родоў належаць князі Слуцкіе, Астрожскіе, Соломерэцкіе, Пронскіе, Масальскіе, Соколінскіе, Лукомскіе, Дорогостайскіе, Корсакі, Тышкевічы і інш. Беларусь пакрываецца кляштарамі і касьцёламі. У беларускіх князёх і шляхце каталіцтво знайшло цьвёрдых і шчырых староннікоў, а ў патрэбі і і абаронцоў.

Трохсотлетняя пазьнейшая гісторыя рэлігійнаго жыцьця на Беларусі паказала, што тут небыло грунту для рэформацыі. Ужо у палавіне XVII сталецьця, дзякуючы шчодрай ахвярнасьці беларускай шляхты і магнатоў, месты і мястэчкі Беларусі густа прыздабляюцца каталіцкімі сьвятынямі, манастырамі і пабожнымі установамі, з народу беларускаго выходзяць гарачые заступнікі і абаронцы каталіцтва, як рымскаго, так і грэцко-уніяцкаго. У апошніе 100 лет, да змаганьня за каталіцтво станула нашэ селянство. Апорнымі уніятамі беларускімі, сто лет кішэлі маскоўскіе турмы і гасьцінцы Сібіры.

Аднак-жэ не глядзя на ўсё гэто каталіцкі касьцёл на Беларусі дагэтуль, не парупіўся даць беларускаму народу духовай стравы у народнай беларускай мове. Польска-дзержаўные ідэалы і польскі нацыяналізм, от ужо блізка 100 лет, кіруюць каталіцкім касьцёлам на Беларусі, на вялікую крыўду беларускаму народу і ня менш вялікую шкоду каталіцкай справы. Дзеецца гэто с тэй прычыны, што за часоў Рэчыпаспалітай польскай, калі мы жылі супольным дзержаўным жыцьцём с Польшчай, селянам нельга было вучыцца на ксяндзоў. Духоўнікамі маглі быць толькі блакітнакроўные (шляхта). Само сабой, што гэтае шляхоцкае духавенство жыло аднымі ідэаламі са шляхтай і хоць, пасьля звальненьня ад панскай няволі, селянам аткрыўся доступ да духоўнаго стану, але шляхоцка-польскіе ідэалы і традыціі у каталіцкім касьцелі на Беларусі не зваліся дагэтуль. Традыціі гэтые старэнна падтрымліваюцца вышэйшым, падаўнаму польска-шляхоцкім, духавенствам і старэнна набіваюць гэтымі традыціямі галовы маладых адэптоў да духоўнаго стану у сэмінарыях, у каторых дагэтуль будучых пастыроў беларускаго народу, ня вучуць мовы народнай, а толькі малазразумелай мовы польскай. Мы верым адначэ, што у канцы канцоў каталіцкі касьцёл на Беларусі пойдзе на сустрэч народным патрэбам.

В. Л.

КАНЕЦ.

Італьянскі тэатр: На сэкторы Сугана італьянская артылерыя падтрымлівала час ад часу востры агонь.

На захад ад Асіяко тырольскі патруль уварваўся у італьянскіе акопы і вярнуўся з неколькімі палоннымі.

ВЕНА, 4.III. **Усходні тэатр:**

Пры ізноў вялікіх марозах слабая баевая дзеяцельнасць.

**Італьянскі тэатр:** Учора вечэрам нашы кампаніі зруйнавалі воражый падкоп і акопы каля Обэр-Вэртойба і прывялі с сабой 42 палонных і 2 кулямёты. Пры Подсабоціи наш артылерыйскі агонь, зніштожыў італьянскі склад ваенных матэр'ялоў.

За люты мы ўзялі: 4.900 палонных, 89 кулямётаў і 30 мінамётаў.

---

**Падводная вайна.**

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У блокбдным поясе Сяродземнаго мора нашы падводные лодкі затапілі: 17 лютаго транспортны карабель у 9.000 тон, 23 лютаго параход з войскам у 5.000 тон, у той самы дзень транспортны карабель, таксама у 5.000 тон, 24 лютаго транспортны карабель у 4.449 тон с 500 чэлавекамі колоніяльнаго войска, артылерыей і коньмі, часць войска затонула. Апрача гэтаго у апошніе дні затоплено ешчэ 13 параходоў паемнасьцю 25.166 тон з грузам пшаніцы, льнянаго семя, ваты, кукурузы і вугальля.

БЭРЛІН. Дзьве, толькі што вярнуўшыеся, падводные лодкі затапілі 15 параходоў і 7 парусных лодак, агульнай паемнасьцю 64.500 тон, у тым ліку 8.800 тон гранатоў, 3.300 тон збожжа, 3.000 тон льнянаго семя, 15.000 тон вугальля, 2.500 тон ваенных матэр'ялоў, 3.500 тон розных тавароў, 4.300 тон сена, 1.200 тон жалезнай руды і 1.800 тон земляных арэхоў.

БЭРЛІН. 3.III. У апошніе дні нямецкіе падводные лодкі затапілі 21 параход, 10 парусных лодак і 16 рыбалоўных лодак, агульнай паёмнасьцю у 91.000 тон.

НЬ'Ю-ІОРК. Амэрыканскіе газэты публікуюць пісьмо, каторае нямецкі міністр заграні чных спраў напісаў нямецкаму паслу у Мэксыку. Яно гэткае: „1 лютаго мы пачнём неабмежэную падводную вайну. Калі неудасцца прымусіць Амэрыку быць нэўтральнай, то мы прапануем сувязь з Мэксыкам, на такіх варунках: мы будзем разам вясьці вайну і разам зробім згоду, мы дамо Мэксыку грашавую падмогу і трэба спадзевацца, што Мэксык дабудзе назад землі, аддадзеные 1848 гаду Амэрыцы. Калі ўспыхне вайна з Амэрыкай, то ніхай Мэксыканскі прэзыдэнт Карранца запросіць Японію прылучыцца да нас і ніхай ён будзе пасрэднікам паміж намі і Японией. Скажыце Карранцу, што падводная вайна, у некольки месяцоў паставіць Англію на калені і прымусіць зрабіць згоду".

ВАШЫНГТОН. Вільсон заявіў партыйным верхаводам у сэнаце, што ён у стасунку да Нямеччыны ня зробіць ніякіх ваенных кроноў, пакуль конгрэс ня будзе склікан на экстрэннае заседаньне.

**Каля вайны.**

БЭРЛІН. Здарэньня на ўсходнім фронці гэто падгатоўка да вялікіх опэрацій на вясну і лето. Массовые штурмы расейцоў пры Татарскім праходзе, былі звязаны з вялікімі крывавымі стратамі, але саўсім безкарысна.

БЭРЛІН. Амэрыканскіе газэты даносяць аб перэгаворах паміж нямецкім паслом у Мэксыку і мэксыканскім урадам аб угодзе проці Амэрыкі.

Са стараны нямецкаго ураду на гэто апавешчаецца, што напраўду нямецкі пасол у Мэксыку у сярэдзіне студня, атрымаў загад зрабіць з Мэксыканскім урадам угоду проці Амэрыкі, на той выпадак, калі на скутак падводнай вайны Амерыка апавесьціць вайну Нямеччыне.

С прычыны здрады, тайная умова гэта сталася вядомай амэрыканскаму грамадзянству.

БЭРЛІН. Нямецкіе марскіе самалёты 1 марца зрабілі налёт на Англію і закідалі 21 бомбай тарговые параходы і жалезнадарожные будынкі у Рамсгет; усе самалёты вярнуліся назад.

ЛОНДОН. Ваенная рада апублікавала адозву, у якой кажэ аб патрэбе большаго ліку салдатоў, бо вайна дайшла да найвышэйшаго развіцьця.



# Спісак беларускіх кніжак.

Ведаючы цану кнігі, найлепей прыслаць грошы наперад — гэтак таней каштуе перасылка.

(Кніжкі азначэные *біс* — выйшлі і лацінскімі і «рускімі» літэрамі.

## I. Навуковые даступные для усіх.

| | | Цэна руб. | кап. |
|---|---|---|---|
| | Praktyčnye rady ab harodnictwie | — | 7 |
| | Гутаркі аб небі і зямлі з рысунками | — | 15 |
| біс | Цукер, В. Тройцы | — | 3 |
| біс | Гутаркі аб гаспадарцы | — | 3 |
| біс | Як ратаваць уздутую жывёлу | — | 3 |
| біс | Як бараніцца ад халеры | — | 1 |
| біс | Як рабіць добрые рамовые вульлі | — | 5 |
| біс | Зямельная справа у Новай Зэляндіі | — | 3 |
| біс | Кароткая гісторыя Беларусі—Власта | — | 60 |
| | Bł. Andrej Boboła mučynik | — | 5 |
| | Pčalina—žywiołka małaja a karyści daje mnoha | — | 30 |
| | Як багацеюць чэскіе селяне | — | 10 |
| | Як выбіраць дэпутатоў у Гас. Думу | — | 3 |
| | На дарозе да новаго жыцьця. А. Новіны | — | 20 |
| | Alkahol | — | 2 |
| | Rady dla matak | — | 3 |
| | Św. Jozafat Kuncewič | — | 3 |

## II. Повесьці і апаведаньня прозай.

| | | руб. | кап. |
|---|---|---|---|
| біс | Гэдалі, Э. Ожэшко | — | 6 |
| біс | Казка аб вадзе | — | 3 |
| | Архіп і Лявонка,—М. Горкаго | — | 8 |
| | У дому лепей.—Новіча | — | 4 |
| | „Маладая Беларусь". Сэрыя І-я сшытак 1-шы | 1 | — |
| | „Маладая Беларусь" „ „ сшыт. II-гі | 1 | — |
| біс | Зборнік «Нашай Нівы» № 1 | — | 15 |
| біс | Зборнік «Нашай Нівы» № 2 | — | 20 |
| | Амэрыканец—А. Новіча | — | 10 |
| | Бярозка і др.—Ядвігіна Ш. | — | 5 |
| | Беларускіе казкі | — | 5 |
| | Хілібэртава пакута, Амфітэатрова | — | 5 |
| | Апаведаньня—Тараса Гушчы | — | 10 |
| | Abrazki — Zmitraka Biaduli | — | 15 |
| | „Маладая Беларусь". Сэр. 1-шая. Сшытак 3 | 1 | — |
| | Колядная пісанка 1913 г. | — | 10 |
| | Нёмнаў дар—Тараса Гушчы | — | 6 |
| | Тоўстае палена — Тараса Гушчы | — | 5 |
| | Апаведаньня — Галубка | — | 6 |
| | Праклёнышы — Л. Гвозда | — | 6 |
| | Аб чым шэпацелі лісьця | — | 6 |

## III. Вершы.

| | | руб. | кап. |
|---|---|---|---|
| | Вязанка, Я. Лучыны | — | 4 |
| біс | Тарас на Парнасе | — | 5 |
| | Дзед Завала, Ядвігіна Ш. | — | 5 |
| | Адвечная песьня, абраз у XII зьявах Я. Купалы | — | 20 |
| | Песьні жальбы, Якуба Коласа | — | 30 |
| | Huślar, zbornik wierszoŭ J. Kupały | — | 50 |
| | Кацярына. Т. Шэвчэнка | — | 10 |
| | Жалейка. Зборнік вершоў, Я. Купалы | — | 50 |
| | Pan Tadeusz, A. Mickiewiča, perekł. Marcinkiewiča | — | 25 |
| | Hapon, apowieść Marcinkiewiča | — | 15 |
| | Wečarnicy, apowieści Marcinkiewiča | — | 15 |
| | Ščeroŭskije dažynki, Kupała. Marcinkewiča | — | 20 |
| | Dudka biełaruskaja, M. Buračka. | — | 15 |
| | Batrak. Jak Jurka zabahaceŭ.—Jakuba Kołasa | — | 10 |
| | Pieśni —Ciszki Hartnaho | — | 15 |
| | Сон на кургане—Янкі Купалы | — | 50 |
| | Čyžyk Biełaruski, Haljasza Leŭčyka | — | 30 |
| | Шляхам жыцьця—Я Купалы, с партрэтам аўтора | 1 | 25 |
| | Вянок, зборнік вершоў М. Богдановіча | — | 50 |
| | Apawiedańnia i lehiendy wieršam | — | 25 |
| | Kantyčka. Bez aprawy 10 k., u aprawe | — | 15 |
| | Прапаў чэлавек і др. Якуба Коласа | — | 6 |
| | Z rodnaho zahonu—A. Ziaziuli | — | 5 |

## IV. Беларускіе тэатральны творы.

| | руб. | кап. |
|---|---|---|
| Хам. Абраз у 4 х дзеях, Э. Ожэшко | — | 70 |
| Сватаньне. Жарцік у 1-й дзеі, Чэхова | — | 25 |
| Мядзьведзь. Жарцік у 1-й дзеі, А. Чэхова | — | 30 |
| Міхалка. Камэдыя у 1 дзеі | — | 35 |
| Па рэвізіі. Абраз у 1 дзеі, Кропіўніцкаго | — | 35 |
| Пашыліся ў дурні. Жарт Кропіўніцкаго у 3-х дзеях | — | 60 |
| Як яны жаніліся. Жарт у 1 дзеі, А. Володськаго | — | 30 |
| «Паўлінка», камэдыя у 2 дзеях, Я. Купалы | — | 75 |

## V. Беларускіе музыкальные творы.

| | | руб. | кап. |
|---|---|---|---|
| | Беларускі песеньнік з нотамі | — | 15 |
| | Biełaruskie peśni z notami I čaść. Sabraŭ A. Hrynewič | — | 30 |
| | Biełaruskie peśni z notami II čaść. Sabraŭ A. Hrynewič i A. Ziaziula | — | 25 |
| | Беларускіе песьні разложэные на 4 голасы; адна песьня у 4 галасох 10 к., кожны голас | — | 3 |
| | Чамуж мне ня пець. Ой ляцелі гусі. Дый кудыж ты. Ой пайду я лугам. Ды ўжо сонейка. | | |
| біс | А хто там ідзе? Я. Купалы, муз. Рогоўскаго | — | 10 |

## VI. Гадавікі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наша Ніва 1906 году | 1 р. — к. | Наша Ніва 1910 году | 3 р. — к. |
| „ „ 1907 „ | 15 р. — к. | „ „ 1911 „ | 3 р. — к. |
| „ „ 1908 „ | 5 р. — к. | „ „ 1912 „ | 5 р. — к. |
| „ „ 1909 „ | 3 р. — к. | „ „ 1913 „ | 2 р. 50 к. |

Календары 1910, 1911, 1912, 1913, 1914 г. па 15 к., 1915 г. па 20 кап., 1916 г. па 15 кап., 1917 г. па 20 кап.

Прысылаючы грошы почтай трэба адрэсаваць так: **Wilnia, Wallstrasse 7, Weisruthenische Buchhandlung, W. Lastowski.**

**Друкавана у друкарні М. Кухты.** **Выдавецтво «Гоман».** **Редактар В. Ластоўскі.**